# НОВАЕ ЖЫЦЬЦЁ

**Цана асобнага нумару 800 м. п.**

Адрэс рэдакцыі і адміністрацыі: Вільня, Вострабрамская вул. 9 (Ostrobramska 9).

Рэдакцыя адчынена ад 12 да 2 штодня апрача сьвяточных дзён.

**Выходзіць раз у тыдзень.**

Падпіска на адзін месяц з дастаўкай да хаты 3000 м.п. Для заграніцы ўдвая даражэй.

Няпрынятыя ў друк рукапісы назад не вяртаюцца. Аплата надрукованага залежыць ад рэдакцыі.

Цана абвестак: перад тэкстам 800 мк., сярод тэксту 600 мк. і на апошняй страніцы 400 мк. за радок пэтыту ў 1 шпальт.

№ 9 — Аўторак, 1-га траўня 1923 г. — Год I.


## Сьвята першага мая.

Сёньня, як і кожны год работнікі ўсяго сьвету дружнымі радамі выйдуць на вуліцы з сваімі чырвонымі штандарамі, на якіх напісаны агульна-пралетарскі кліч:

**„Працавітая бедната ўсіх краёй, злучайся!“**

Гэтым сьвяткаваньнем „сьвята працы“, як доўгі і шырокі белы сьвет, пралетарскія масы розных культур, моваў і вер выяўляюць сваю сацыяльную сьвядомасьць, выяўляюць пачуцьцё салідарнасьці вялізнае „сусьветнае працоўнае сям'і.

Вялікая сусьветная вайна, паднятая міжнародным капіталам, каб у крыві міліонаў пабітых людзей утапіць сілу аб'еднанае работніцкае клясы, у першы мамэнт, здавалася, дапяла свае мэты. Рукамі наёмных забойцаў капітал зьмёў з сваей дарогі такіх магутных абаронцаў працоўнага народу, як вялікі Жорэс, як павадыры нямецкага пралетарыяту, як доўгі сьцяг барцоў за пралетарскі ідэал, што скончылі дні свае ў вастрогах і на шыбеніцах... А работнікаў розных нацыянальнасьцей, яшчэ напярададні працягіваўшых сабе братнюю руку па-над гранічнымі капцамі, нацкавалі адных на адных і прымусілі сваімі ўласнымі рукамі нішчыць жывую пралетарскую сілу на палёх бітваў. І спавіў крывавы туман усенькі сьвет, засланіўшы сабою вялікі ідэал работніцкае салідарнасьці, ідэал супольнае барацьбы пралетарыяту ўсіх краёў за сваё соцыяльнае вызваленьне.

Распалілася нацыянальная ненавісьць. Разгарэўся воўчы апэтыт захапіць чужую зямлю, паняволіць чужы народ. А лжывыя вусны слуг Малёха шапталі адурманеным народам казку аб барацьбе за нацыяльную свабоду, за вызваленьне „малых нацыяў“...

Людзі, што ўсё жыцьцё ішлі пад чырвоным сьцягам сацыялізму, пачалі выяўляць дзікі нацыянальны шовінізм. І ў гэтым шале нацыяналістычным „сацыялісты“ братніх нам народаў ірвалі на кускі жывое цела Беларускага народу...

Але магутнае жаданьне сапраўднае волі, пачуцьцё, што толькі ў еднасьці сіла пралетарыяту ўсяго сьвету і залог аканчальнае перамогі над капіталам, пачынае ўжо гэны крывавы туман разганяць. Народы з жахам углядаюцца на тыя страшэнствы, што ў мамэнт нейкага небывалага засьляпеньня зроблены іх рукамі. І ў душах працоўных масаў ізноў насьпевае той магутны парыў, што раней, ці пазьней скіне ярмо сацыяльнае залежнасьці ад капіталу.

Хай сусьветны капітал напружае ўсе свае сілы, каб гэтаму перашкодзіць, хай цкуе брата проці брата, хай шле войскі аднаго пароду на землі другога, каб недапусьціць да ўмацаваньня міра, — яму ня стрымаць ужо гэтага масавага парыву! Бо, ня гледзячы ні на што, салідарнасьць пралетарыяту ўсяго сьвету — гэта нязьменны факт, бо яна ня можа не істнаваць, пакуль істнуе панаваньне капіталу над працай.

І з цьвёрдаю вераю ў аканчальную перамогу працы, ў пабеду сьветлых ідэалаў волі, роўнасьці і брацтва людзей мы ў сёньняшні дзень агульна-работніцкага сьвята далучаем наш голас да згоднага голасу міжнароднага пралетарыяту і разам з ім клічам:

**„Працавітая бедната ўсіх краёў, злучайся!“**

## Памяці Ігната Канчэўскага.

Быццам дыямэнт цудоўны, дзіўным харастом гарэла Яго душа сярод жыцьцёвага бруду, маны, крывадушнасьці.

Жыў дзеля вялікага ідэалу вызваленьня свайго народу ад духовага, палітычнага і эканамічнага рабства. Але ў кожным выяўленьні Яго працы перш за ўсё відаць было гарачае ўмілаваньне чалавека. І чалавека хацеў Ен вызваліць у беларусе.

Маладая, жывая, чыстая душа шукала дорогі да яснаты, да шчасьця людзей. Шукала і змагалася і мучылася труднасьцяй дасяганьня: і сумавала, бо давялося ёй жыць у

„час, калі трэба журыцца
„душою на сьвежых магілах“...,

Гэтыя радкі Ігнат Канчэўскі зьмясьціў наперадзі свайго, здаецца, адзінага публіцыстычнага твору, што выйшаў ў асобнай кніжцы: „Адвечным шляхам“ (Вільня 1921) пад псэўдонімам „Ігната Абдзіраловіча“.... не здарма ўжыў Ен за псэўданім імя героя „Дзьвюх Душ:“ бо-ж і Ен перажываў унутраную барацьбу, ломку духовую, падобна Абдзіраловічу, але толькі з гэнае барацьбы выйшаў пабедна, як сьвядомы сваей мэты грамадзкі працаўнік—ідэаліст.

* * *

Ігнат Канчэўскі радзіўся ў маі 1896 году тут, у нашай старой Вільні. Тут-жа скончыў рэальную школу, а пасьля вучыўся ў тэхналягічным інстытуце ў Пецярбурзе і ў Маскоўскім унівэрсытэце (на філялягічным факультэце). Вайна спыніла навуку: у 1916 годзе яго ўзялі ў салдаты. Як чалавека з адукацыяй, аддалі ў школу прапаршчыкаў. Папаўшы на румынскі фронт, як афіцэр, Ен зразу-ж начаў працаваць над асьведамленьнем жаўнераў у 44 украінскім палку, стоючы на грунце праграмы сацыялістаў-рэвалюцыянераў. Тут прыждаў і рэвалюцыі. Але чыста партыйныя справы не здаволівалі Канчэўскага: сам чалавек жывы, кіпучая натура, мімаволі захапіўся ідэяй вызваленьня тых „мужыцкіх“ народаў, што хавалі ў сабе вялізарныя укрытыя скарбы духовае творчасьці. Ен горача спагадае украінцам і памагае ім тварыць нацыянальнае войска, ў якім жаўнеры Яго абіраюць за афіцэра. Адначасна ў душы Яго выкрысталізовываецца цьвёрдая сьвядомасьць, што імпэрыялістычная вайна—гэта сорам для людзкасьці. Яму агідна жаданьне „пабеднага канца“, і вось Ен у 1917 годзе кідае войска і выяжджае на Дон, дзе і жэніцца.

У восені таго-ж году бачым Канчэўскага ў Маскве, як студэнта вышэйшых Коопэратыўных Курсаў пры унівэрсытэце Шаняўскага. Арганізацыя масаў народных на грунце самапомачы вельмі вабіць Яго. Скончыўшы курсы, Ен працуе нейкі час у Смаленску, як інструктар ад Цантр. Саюзу Льнаводаў.

Але тая іскра нацыянальнае сьвядомасьці, што распалілася ў Яго душы гледзючы на прыклад братняга нам украінскага народу, не дала Канчэўскаму стаяць в боку, калі ў цэнтрах Беларусі пачалася вялікая беларуская нацыянальная і дзяржаўная работа. Яго пацягнула ў родную Вільню, куды Ен і прабраўся ў 1919 годзе. Абабраўшы сабе за спэцыяльнасьць коопэрацыю, Канчэўскі працай сваей на гэтым грунце далучаецца да агульна-нацыянальнага будаўніцтва — сьпярша, як коопэратыўны інструктар Совнархозу, а пасьля — як працаўнік Віленскага Саюзу Коопэратываў. На апошнім становішчы закончыў сваё жыцьцё 21 гэтага красавіка.

* * *

Нацыянальная ідэя ўсё ярчэйшым полымям разгаралася ў душы Канчэўскага. Чым больш крыўд і зьдзеку цярпеў наш народ, тым мілей і даражэй станавіўся для гэтага чыстага ідэаліста, ворага ўсякага гвалту і уціску. У апошнія гады працы ў Вільні Канчэўскі пачынае пісаць і друкаваць свае разважаньні і думкі аб беларускай справе і вершы пад псэўданімам Ганна Галубянка ў беларускіх часопісях. Як „культурнік“ перад усім, паводле магчымасьці аказываў помач беларускай віленскай гімназіі, вядучы ў ёй вучнёўскі гурток, па геаграфіі, закладаючы вучнёўскі коопэратыў. І ўсюды, дзе толькі выступае, сустракаецца з глыбокай пашанай і шчырай любоўю.

Выявілася гэта і ў сумным абразе пахаваньня Канчэўскага. Правадзіць цела Яго да магілы сабралася беларуская моладзь, беларускія культурныя і грамадзкія працаўнікі, таварышы коопэратары. Шчыры сум абхапіў усіх, хто знаў нябожчыка і разам з ім працаваў.

Усё жыцьцё Канчэўскага, поўнае ахвярнасьці дзеля вялікага ідэалу, Яго „гарэньне“ ў бязупыннай працы на карысьць свайго народу мелі ў сабе гэтулькі духовага харастава, што нават сьмерць ня можа зацямніць яснаты Яго абразу. І яснай, сьветлай будзе памяць Ігната Канчэўскага сярод беларусаў.

**А. Л.**

## Палітычныя падзеі.

**Бэльгія.** Адбыўся кангрэс бельгійскіх сацыялістаў, на якім між іншым разглядалася справа акупацыі Рура. Прынята рэзалюцыя, каб разам з іншымі сацыялістычнымі партыямі імкнуцца да зьнясеньня акупацыі і дабіцца справядлівага разрашэньня пытаньня рэпарацыйных сплат Нямеччыны пры дапамозе Лігі Народаў і Работніцкага Інтэрнацыяналу. Вандэрвэльдэ ў сваім дакладзе сказаў: „Цяпер стала ясна, што ўрады ня могуць разьвязаць гэтых пытаньняў і што гэтая нядольнасьць ёсьць вынікам палітыкі гвалту. Каб выправіць яго работнікі мусяць паразумецца і здабыць уладу ў рожных краёх“.

**Англія.** Лідэр рабочей партыі Гэндэрсон выслаў да Бонар-Лоу ліст, у якім заяўляе, што рабочая партыя лічыць, што перарыў гандлёвых стасункаў з Расеяй меў бы некарысны ўплыў на ажыўленьне міжнародных стасункаў і дабрабыт Англіі. Дзеля гэтага рабочая партыя спадзеецца, што ўрад ня будзе прытрымлівацца гэтай недальнавіднай палітыкі, якая хацела-б парваць гандлёвыя зносіны з Расеяй.

**Польшча.** Перагаворы паміж „Хьенай“ і „Пястам“ у справе ўтварэньня „польскай большасьці“ трываюць далей. На паседжаньні клюбу „Пяста“ прынята рэзалюцыя, адабраючая становішча Вітаса і варункі паразуменьня з „Хьенай“. Група Домбскага, якая стаіць проціў аб'еднаньня з „Хьенай“, галасавала проціў рэзалюцыі.

Рада міністраў ухваліла арганізацыйны статут міністэрства ўнатраных спраў, які зьмяняе арганізацыю гэтага міністэрства. Між іншым утвораны новы аддзэл нацыянальных спраў.

**Італія.** Кангрэс італьянскай партыі „popolari“ (каталіцкая народн. партыя) ў Турыне прыняў пастанову аб непажаданасьці далейшага удзелу сябраў партыі ў урадзе Мусоліні. З гэтай прычыны міністры належачыя да партыі „popolari“ падаліся ў адстаўку. Такім чынам урад Мусоліні складаецца цяпер з адных толькі фашыстаў і будзе весьці палітыку чыста фашыстоўскую.

**Швайцарыя.** Кангрэс швайцарскіх нацыяналістаў прыняў пастанову прыняць удзел у Гамбурскім кангрэсе; справа далучэньня да новага інтэрнацыяналу будзе разглядацца на партыйным зьездзе на падставе рэзалюцыі Гамбурскага кангрэсу.

**Швэцыя.** Пасьля выхаду ў адстаўку сацыялістычнага кабінэту Брантынга, утвораны кабінэт, які складаецца выключна з прадстаўнікоў буржуазных партый.

**Ірляндыя.** Газэты павэдамляюць, што частка ірляндзкіх паўстанцаў схавалася да пяшчэры на крутым узгор'і над морам, куды вядзе толькі адна вузкая сьцежка і такім чынам забясьпечаны ад атакі з фронту. Рэгулярныя войскі бамбардуюць паўстанцаў бомбамі з удушлівымі газамі. Паўстанцы геройскі бароняцца.

У Лазане зноў началіся нарады ў справе заключэньня мірнага трактату на Бліжнім Усходзе. У канфэрэнцы бяруць удзел прадстаўнікі Англіі, Італіі Францыі, Грэцыі, Японіі, Югаславіі

